Genehmigt und für den Schulgebrauch an den weissruthenischen Schulen des Generalbezirks zugelassen durch Erlass des Generalkommissars für Weissruthenien vom 10 Juli 1942. Abt. II i Ju/Pa.

Pastanovaj Hieneralnaha Kamisara Biełarusi ad 10 lipnia 1942 h. dazvoleny i dapuščany da školnaha užytku u biełaruskich školach Hieneralnaje Prastory Biełarusi. Addz. II i. Ju/Pa.

Schul- und Jugendverlag in Minsk
Vydańnie Vydaviectva Padručnikaŭ i Litaratury dla Moładzi u Miensku

Druck: Kauen-Wilnaer Verlags- u. Druckerei-G.m.b.H.
Wilna, St. Annenstr. 3. 402 II. 43.

# Źmiest.

*А Д   А Ў Т А Р А.*

*„Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацініцаю“ мае наўвеце тых, што, умеючы чытаць і пісаць кірыліцаю, патрабуюць навучыцца чытаць і пісаць пабеларуску лацініцаю.*

*А Ў Т А Р.*

*У Менску, 27. VIII. 42.*



# ЗАДАНЬНЕ І-ае

## Гукі і літары.

**§ 1.** У кажным слове ёсьць гукі, прыкладам, у слове „рука“ чатыры гукі—р-у-к-а. Да абазначаньня гукаў на пісьме прыдуманы апрычоныя значкі, званыя літарамі. Усе літары, ужываныя у якой мове, складаюць альфабэт альбо абэцаду тае мовы. У мове беларускай (крывіцкай) ёсьць дзьве абэцады: кірылічная абэцада або кірыліца і абэцада лацінічная. Лацінічная абэцада узята з мовы лацінскай і прытарнавана да гукаў мовы беларускай, дзеля таго завецца беларускай лацініцаю.

## § 2. Кірыліца па парадку.

Л і т а р ы

| друкаваныя | | друкаваныя | |
|---|---|---|---|
| вялікія | малыя | вялікія | малыя |
| А | а | Л | л |
| Я | я | М | м |
| Б | б | Н | н |
| В | в | О | о |
| Ґ | ґ | Ё | ё |
| Г | г | П | п |
| Х | х | Р | р |
| Д | д | С | с |
| Э | э | Ш | ш |
| Е | е | Т | т |
| З | з | У | у |
| Дз | дз | Ў | ў |
| Ж | ж | Ю | ю |
| Дж | дж | Ф | ф |
| І | і | Ц | ц |
| И | й | Ч | ч |
| Ы | ы | | ь |
| К | к | | |

а) Гук *ў* ёсьцека у такіх словах, як — р о ў, к р о ў, д о ў г, п о ў н ы, р о ў н ы, т р а ў к а.

Перапішы і падчыркні літару *ў*.

Поўна бочачка вінца. Ё вяроўка, але няма кароўкі. Затаўкай затаўкаюць капусту. Паўлюк і Баўтрук ганяюць на пасту. Ваўка ногі кормяць. Даўжбіт павінен аддаць доўг. Увесь лес роўны, адзін сук доўгі. Конь згубіў падкову. У Саўкі боты на падкоўках. Воўчую косьць у лес цягне.

Чалавек ён быў рахманы. Гарэлкі ў губу ён ня браў. Затое ў ласцы быў у пана. Яго пан дужа шанаваў.

Ляцеў ці доўга я, ці мала, таго ніяк не уцямлю, але ужо ладне расьсьвітала, як я зваліўся на зямлю.

(З поэмы „Тарас на Парнасе").

Прыдумай сам колькі сказаў або 5 асобных словаў з гукам *ў*.

б) Гук *дз* абазначаецца дзьвюма літарамі — *дз*. Гук *дз* ёсьць у такіх словах, як д з е н ь, д з ё г а ц ь, д з я г а, д з і р а.

Перапішы і падчыркні літары *дз*.

Дзікі вядуцца у лесе. Яны дзеля дзяцей пераехалі у места. Калі вядзецца, дык і на шчэпку прадзецца. Дзяцельнік сытная трава. Радзюк даглядае трусы. Дзёмка гуляе з дзяцьмі. Вецер дзьме у дзьверы. Дзьве сотні — дзьвесьце. Дзяўчына дзерла бульбу на бліны. Андрэй, ня дурэй, не дзяры капоты. У гародзе ячмень родзе. Не радзіся краснай, а шчаснай. Дзямід папераза́ўся дзяжкаю. Быў конь ды зьезьдзіўся.

в) Гук *дж* абазначаецца дзьвюма літарамі *д* і *ж*.

Перапішы і падчыркні літары *дж*.

Раджу Вам вучыцца. Гляджу, ці усё уладжана. У гародчыку пасаджаны краскі. Я не заблуджу у лесе. Сад абгароджаны тынам. Наймітка на год згоджана. Памідоры рассаджаны на грады. Не нагледжуся на гэтае хараство. Я па табе, дубровачка, не нахаджуся. Пасаджу яблынку. Параджуся у бацькі. Я у бары знаходжу баравікі.

Выяжджае сын Даніла ды на Русь на вайну. Конь уежджаны. Бражджолка бражджыць. У краме прадавалі дрожджы. Ідзі, ідзі, дождж, я навару брожджу. Дажджавая вада мяккая. Сёлета лета дажджлівае. Колы зьежджаны. Прыяжджомыя людзі начавалі у начулішчу.



г) Літара *ґ* у мове беларускай вымаўляецца як літара *г* у мове маскоўскай, прыкладам у маскоўскіх словах, як г о р о д, г о с п о д и н і пад.

Гук *ґ* у мове беларускай ёсьць толькі у малой колькасьці словаў, пазычаных з чужых моваў, такіх як ґ е о ґ р а ф і я, ґ е о м э т р ы я.

д) Літара *г* вымаўляецца ў мове беларускай зьліжана да *х*. Накш можна азначыць, што *г* пабеларуску вымаўляецца як лацінскае *h* (honor) або як *h* у мове нямецкай (прыкладам у слове „haben").

Гук *г* ёсьцека у мове беларускай у такіх словах як н а г а, г а л а в а і множства іншых.

## ЗАДАНЬНЕ 2-е

### Гукі і склады.

**§ 3.** Словы дзеляцца на склады. Гэтак, у слове „вада" два склады — в а-д а, у слове „галава" тры склады — г а - л а - в а, у слове „верацяно" чатыры склады — в е - р а - ц я - н о. Ёсьцека і словы з адным складам, прыкладам с т о л, д о м. Склад вымаўляем адным дыхам. Слова, маючае адзін склад, завецца аднаскладным, два склады — двускладным, тры склады — трыскладным, чатыры склады — чатыраскладным і шмат (многа) складоў — шматскладным або многаскладным.

**§ 4.** Склады, а значыцца і словы, можам падзяліць на гукі. Гэтак, у слове „нага" чатыры гукі (н - а - г - а), у слове „рот" — 3 гукі (р - о - т) н а! мае 2 гукі, *а* — 1 гук.

Г а л о с н ы я. Адныя гукі можам лёгка цягнуць, пяяць, гэта будуць: *а, э, і, ы, о, у*. Таковыя гукі завуцца самагукамі або г а л о с н ы м і.

П а ў г а л о с н ы я. Гукі *ў* (р о ў) і *й* (л о й) завуцца паўсамагукамі або п а ў г а л о с н ы м і.

З ы ч н ы я. Усе асталыя гукі, прыкладам *б, с, дз* і шмат іншых, завуцца зычнымі. Іх без галосных пяяць нельга.

У складзе бывае адзін галосны і адзін ці балей зыкаў. У некаторых складох побач з галоснымі, а напару яшчэ з адным або балей зычнымі, бывае паўгалосны (р о й, д о ў г, д а ў - ж ы - н я, к р о ў). Колькі у слове галосных, толькі у ім і складоў.

Перапішы гэтую песьню, падзяліўшы у ёй словы на склады, гэтак: Ку-ка-ва-ла і г. д.

Кукавала зязюля ў садочку,
Ой, рана-раненька ў садочку,
Прыклаўшы галоўку к лісточку:
— „Хто-ж мае яечкі пабярэць?!"
Плакала дзеванька ў сьвятліцы,
Прылажыўшы галоўку к сьцяніцы:
— „Хто-ж маю косаньку распляцець,
Хто-ж мае уплёты пабярэць?!"
(З вяс. песьні).

## Перанос слова.

**§ 5.** Калі цэлае слова не зьмяшчаецца у вадным радку, дык часьць яго пераносяць у новы радок. Пераносячы ставяць гэткі значок -. Пераносяць толькі цэлыя склады, значыцца, ня можна часьць гукаў складу пакінуць, а другую часьць складу перанесьці.

Калі між галосных ёсьць адзін зычны, дык яго пераносяць у новы радок, прыкладам ка-за. Калі між галосных ёсьць два зычныя побач, дык адзін пакідаюць, а другі пераносяць, прыкладам коз-ка. Калі між галосных ёсьць адзін паўсамагук, а другі зык, дык паўгалосны пакідаюць, а зычны пераносяць, прыкладам лаў-ка, шый-ка.

а) Перапішы, разьбіўшы на склады, як да пераносу.

На адным дубе зязюля,
На другім дубе другая.
Была ў суседа дачушка,
А у другога—другая.
Адна была ухвалёна,
Другая была зганёна.
Да зганёнай сватоўе,
Да хвалёнай нікога.
Стала ўхвалёна плакаці,
На свае дары гледзячы:
— Ой, дары, дары, дарэнькі,
Абрусы мае бяленькі,
Дзе я вас падзену?

б) Перапішы і падчыркні галосныя простай рыскаю, а паўгалосныя хвалістаю, гэтак т р а ў к а.



## Каток з пятушком і ліска.

Жыў каток з пятушком. Пайшоў каток на уловы, а пятушка заставіў пільнаваць дому. Пятушок стаў пець. Лісічка прыйшла хусьце мыць пад акно. Яна сказала: — „Хараша пяеш, але я глушка на лева вушка, пыляці бліжэй". Пятушок прыляцеў. Дык ліска схапіла яго і пабегла. А пятушок пеў: — „Каток-браток, мяне ліска імчыць па хмызьнічку, па бярэзьнічку, па высокіх горах, па лісіх норах".

в) Перапішы і падчыркні зычныя рыскаю.

## Дзедка з бабкай і воўк.

Жыў дзедка. Было у яго 5 авечак, шосты бычэчак, курка рабушка і сучка зьвяружка. Прыйшоў да іх воўк пад акно і хараша пеў:

— Пяць, пяць авечак і шосты бычэчак, курка рабушка і сучка зьвяружка.

— Хараша пяе—дзедка сказаў—дай яму адну авечачку. Воўк занёс яе на лом і кінуў.

**§ 6.** Цьвярдыя і мяккія зычныя. Зычныя бываюць цьвярдыя і мяккія. Прыкладам, у слове „вось" зычны *в* цьвярды, а *с* мяккі; у слове „дзень" абодва зычныя *дз* і *н* мяккія. Часта той самы зычны, залежна ад месца у слове, бывае раз цьвярды, а другі раз мяккі. Прыклады: *лаза* (*з* цьвярды), *у лазе* (*з* мяккі).

Перапішы і падчыркні мяккія зычныя.

Ляцела куна з бору ў дуброву —
К сакалу на размову.
— Мне ў бары добра, мне ў бары добра,
У дуброўцы ляпей будзе:
У бары шышкі — пакалю ножкі,
У дуброўцы мякчэй будзе.
— Аддай мяне, мамачка, за міленькага;
Мне ў мамкі добра, мне ў мамкі добра,
У мілага ляпей будзе:
У мамкі ключы пад паясочкам,
У мілага на прабоі. *)

*) Усі дагэтуль прыведзеныя песьні і пачаткі казкаў узяты з кніжкі „Biełaruskija (kryvickija) narodnyja pieśni i kazki", kn. II., Vilnia 1930.

Гук *дз* блізу заўсёды бывае мяккі. Глянь укладаньне у § 2 пад б).

Гук *ц* у вадных словах цьвярды, а у другіх мяккі. Цьвярды, прыкладам, ёсьць у словах цэлы, цэп, цана, цадзіць і інш., а мяккі у словах цьвет, цеста, вецер, дзіцё, цішыня і мноства іншых.

## ЗАДАНЬНЕ 3-яе

### § 7. Лацінічная абэцада.

| Кірылічныя літары. Друкав. | Прыклады | Лацінічныя літары Друкав. | Прыклады |
|---|---|---|---|
| а | | a | |
| о | | o | |
| б | баба, боб | b | baba, bob |
| д | до! | d | do! |
| а | баба | a | baba |
| (Зычны+) я | бяда | (Зычны+) ia | biada |
| я | яда | ja | jada |
| к | | k | |
| в | вока | v | voka |
| ц | цаца, бац | c | caca, bac |
| ць | бацька | ć | baćka |
| ч | чад | č | čad |
| э | цэд | e | ced |
| (Зычны+) е | цеч | (Зычны+) ie | cieč |
| е | едкі | je | jedki |
| г | гад, год | h | had, hod |
| х | хата | ch | chata |
| і | біць | i | bić |
| й | бой | j | boj |
| ль | боль, болька | l | bol, bolka |
| л | лог, кол | ł | łoh, koł |
| м | мох, дом | m | moch, dom |
| н | нага | n | naha |
| нь | конь | ń | koń |



| Кірылічныя літары. Друкав. | Прыклады | Лацінічныя літары Друкав. | Прыклады |
|---|---|---|---|
| о | | o | |
| (Зычны+) ё | мёд | (Зычны+) io | miod |
| п | палок | p | pałok |
| р | рак, дар | r | rak, dar |
| с | сок, нос | s | sok, nos |
| сь | Коська, касьба | ś | Kośka, kaśba |
| ш | шаль, кош | š | šal, koš |
| т | хата, кот | t | chata, kot |
| у | дуб | u | dub |
| (Зычны+) ю | цюцька | (Зычны+) iu | ciućka |
| ю | юшка | ju | juška |
| ў | стаў, доўг | ŭ | staŭ, doŭh |
| ы | сын | y | syn |
| з | зара, воз | z | zara, voz |
| зь | мазь | ź | maź |
| ж | жорны, нож | ž | žorny, nož |
| дз | дзын! | dz | dzyn! |

### § 8. Абазначаньне мякчыні зыкаў, стаячых на канцы слова і перад іншымі зыкамі.

Калі мяккі зычны стаіць на канцы слова або перад іншым зычным, дык яго мякчыню у кірыліцы паказуем ставячы па мяккім зычным знак *ь* мякчыні. Прыклады: пац—пяць, сон—конь, коска—коська.

У лацініцы мякчыню зычных на канцы слова і перад іншымі зычнымі абазначаем літарамі з рыскаю, значыцца замест *c* пішацца *ć* (cacka, але baćka), замест *s* пішацца *ś* (koska, але kośka,) замест *z* пішацца *ź* (mazka, але maź), замест *dz* пішацца *dź*, (dzylin, але dźmuć) і пішацца *ń* замест *n* (son, але koń).

а) Перапішы, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тымжа словам, напісаным кірыліцаю, і падчыркні мяккія зычныя.

Сабака грыз косьць. Майстра прадаў вось. Коська, коська! —
Sabaka hryz kość. Majstra pradaŭ voś. Kośka, kośka! —

Крычэў Іванька. Конь парваў супонь. Карусь вучыцца.
Kryčeŭ Ivańka. Koń parvaŭ supoń. Karuś vučycca.

Вось мы і дома! Пронька і Ходзька пішуць.
Voś my i doma! Prońka i Chodźka pišuć.

Перапішы кірыліцаю і адначасна тое самае напішы лацініцаю, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тым-жа словам, напісаным кірыліцаю.

Рэдзька. Іванька зарваў гарэх. Дрэнь гэны конь. Бацька даў абаранку. Адам прадаў мазь. Гаспадынька варыць істраву. Слонь дужы. Пастух вырваў карэнь. Ах, ты, забудзька! Прыйшоў да нас Будзька. У Гапонькі два браты. Марыська з Гануськай дома. Ганька тчэ кросны.

## Абазначаньне мякчыні зычных, стаячых перад галоснымі.

## ЗАДАНЬНЕ 4-е.

**§ 9.** Хочучы паказаць, што зычны мяккі, просьле яго ставім у кірыліцы і лацініцы *і* (а ня *ы* у кірыліцы і ня *у* у лацініцы). Прыклады: сініца—sinica, травіца—travica.

Перапішы кірыліцаю і напішы тое самае лацініцаю—пад тымі-ж словамі, напісанымі кірыліцаю.

Ручнік вісіць на кручку. Трысьнік высокі вырас. Гэна наш зарасьнік. Разьнік зарэзаў барана. Гусь борзда плыла. Возьнік вазіў муку. Зьмітра хітрэйшы за Сьпірыду. Аніська зрабіў сіло. Звон хораша зьвініць. Мама сінькай сініць.

**§ 10.** Калі мяккі зычны стаіць перад галосным *а, е, о, у*, дык, каб паказаць мякчыню зычнага, па ім у кірыліцы замест *а* пішуць *я* (зяць), замест *э* пішуць *е* (медзь), замест *о* пішуць *ё* (мёд) і замест *у* пішуць *ю* (цюпа, цюцька).

У лацініцы мякчыню зычнага перад *а, е, о, u* паказуюць такім спосабам, што па мяккім зычным пішуць *і* (ziać, miedź, miod, ciupa, ciućka).

а) Перапішы абедзьвіма абэцадамі, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тым-жа словам, напісаным кірыліцаю.

У мяне была дзядзіна. За грошы усюды харошы.
U mianie była dziadzina. Za hrošy usiudy charošy.

У пятніцу заходзіць да мяне Панасюк. Дзямід быў сьветкай
U piatnicu zachodzić da mianie Panasiuk. Dziamid byŭ śvietkaj



на судзе. Гаспадар пайшоў вячэраць. Каровы ходзяць па
na sudzie. Haspadar pajšoŭ viačerać. Karovy chodziać pa

канюшыне. Месяц схаваўся за хмарку. Сягодня
kaniušynie. Miesiac schavaŭsia za chmarku. Siahodnia

сонечны дзень. Венікам мятуць хату.
soniečny dzień. Vienikam miatuć chatu.

б) Перапішы і пад кажным словам, напісаным кірыліцаю, напішы тое самае лацініцаю.

Дай каню сена. Ведзьмаў няма на сьвеце. Бяз дуды ходзяць ногі ня туды. На пасецы авёс родзе. Дзяжа накрыта векам. Ходзіць бай па сьцяне. Верасень — восенскі месяц. Хвядося сястра Пятрусёва. Ні сьцяты, ні павешаны. Той соня, хто доўга сьпіць. Ня вер каню у дарозе. Сьнежань — зімовы месяц. За вуторы падняў бочку (Б). Не пагаснуць зоркі у небе. Дзеравы і краскі цьвітуць. Не загіне Беларусь.

## Абазначаньне ётаваных галосных.

## ЗАДАНЬНЕ 5-ае.

**§ 11.** Калі перад *а* ёсьць *й* (значыцца чуецца *йа*), дык у кірыліцы гетае *йа* абазначаецца аднэй літараю *я* (яма, зьява), а ў лацініцы так і пішацца, як чуецца, значыцца ja (jama, źjava).

Калі перад *э* ёсьць *й* (значыцца чуецца *йэ*), дык у кірыліцы гэтае *йэ* абазначаецца аднэй літараю *е* (ем, ежа, зьехаць, аб'ехаць), а у лацініцы так і пішацца, як чуецца, значыцца *je* (jem, ježa, źjechać, abjechać).

Калі перад *о* ёсьцека *й* (значыцца чуецца *йо*), дык у кірыліцы гэтае *йо* абазначаецца аднэй літараю *ё* (ён, ёсьць, бяёдаць), а у лацініцы так і пішацца, як чуецца, значыцца *jo* (jon, jość, biajodać).

Калі перад *у* ёсьць *й* (значыцца чуецца *йу*), дык у кірыліцы гэтае *йу* абазначаецца аднэй літараю *ю* (Юрка, юшка, б'ю), а у лацініцы так і пішацца, як чуецца, значыцца *ju* (Jurka, juška, bju).

а) Перапішы, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тым-жа словам, напісаным кірыліцаю.

1.

Янук корміць ягняткі. З ячменю робяць прыварак. Не
Januk kormić jahniatki. Z jačmieniu robiać pryvarak. Nie

па Юрку шапка. Янка і Язэп добрыя дзяцюкі. Ядзьвіга
pa Jurku šapka. Janka i Jazep dobryja dziaciuki. Jadźviha

прадзе. Раньняя птушка зубкі цярэбіць, а позьняя вочкі трэ.
pradzie. Rańniaja ptuška zubki ciarebić, a poźniaja vočki tre.

Што душа мае, тым і прыймае. Ня усе ягады ядомыя.
Što duša maje, tym i pryjmaje. Nia usie jahady jadomyja.

Соя сытная еміна.
Soja sytnaja jemina.

2.

Калі маеш гаруд жыта — будуйся. Баба Еўка, дзед Тамаш
Kali maješ harud žyta — budujsia. Baba Jeŭka, dzied Tamaš

паехалі на кірмаш. Быў зьезд. Хто ня еў ракоў — такоў.
pajechali na kirmaš. Byŭ źjezd. Chto nia jeŭ rakoŭ – takoŭ.

Смачная яечня з скваркамі. Ня ёрзайся па дошцы. Ма-
Smačnaja jaječnia z skvarkami. Nia jorzajsia pa došcy. Ma-

ёвыя жукі шкодныя. Харошы явар расьце у Якіма.
jovyja žuki škodnyjə. Charošy javar raście u Jakima.

б) Перапішы і пад кажным словам, напісаным кірыліцаю, напішы тое самае лацініцаю.

1.

Ніхто ня ведае, як хто абедае. Якая птушка, такія песьні. Увясну каровы ядуць ягаднік. Вой, скручу я дудку, такое заграю, што усім будзе чутна ад краю да краю (Б.). Тваё піва мне ня дзіва. Ёсьць гусі свойскія і ёсьцека дзікія. Вой, ці днюю ці начую, я ўсё там, вой там (Кар.). Як у трасцы ён завыў. Гушчу зьеў, а жыжку на кагал. Ён з гора піпку закурыў.

2.

Стаяў я доўга. Усе з сабой цягаюць кніжкі. Тарасу ліха што здаецца, ну, як-бы у рандзе ён сядзіць, хто піпку курыць, хто сьмяецца. То у дудку ён заграець, то сьмешны



песьні запяець, то адным вокам заміргаець, як быццам ён каго завець. Я заграю у дуду. Пятух рана пяе. Хто арэ, хто барануе, — усіх Бог параўнуе.

## ЗАДАНЬНЕ 6-ае.

### Абазначаньне ль мяккога.

**§ 12.** Калі кірылічнае *л* стаіць на канцы слова (с т о л), або перад зыкам (с т о л к а), або перад *а* (л а в а), *э*, *ы* (л ы с ы), *о* (л о к а ц ь), *у* (л у к), дык яму у лацініцы адказуе *ł*: (stoł, stołka, łava, łysy, łokać, łuk).

Кірылічнаму *ль* адказуе лацінічнае l (столь—stol, моль—mol, колька — kolka).

а) Перапішы кірыліцаю і лацініцаю.

Моль псуе адзежу. А тут цёмна, хоць коль вочка (Б). З мор-
Mol psuje adziežu. A tut ciomna, choć kol vočka (B). Z mor-

скай вады дастаюць соль. Хведзька смажыць бульбу. Дастань
skaj vady dastajuć sol. Chviedźka smažyć bulbu. Dastań

вугаль з печы. У мыцельніку мыюцца. Уверсе столь, а дала-
vuhal z piečy. U mycielniku myjucca. Uviersie stol, a dała-

вах (унізе) стаіць стол. Волька і Анелька у гародзе. Жаль
vach (unizie) staić stoł. Volka i Anielka u harodzie. Žal

мне радзіманькі! Дай мне дульку. Полька — ня польскі скок.
mnie radzimańki! Daj mnie dulku. Polka — nia polski skok.

Харошы, прыгожы Васілька.
Charošy, pryhožy Vasilka.

б) Перапішы і адначасна напішы тое самае лацініцаю, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тым-жа словам, напісаным кірыліцаю.

1.

У нас аднасель. Гэта іхняя дзель. Кароль — такое імя. Каваль куе у кузьні. Волька хораша рысуе. Ганулька, Марылька, Зулька і Гапулька вучацца. Вайцюль грае на йскрып-

цы. Чмель зьбірае мёд. Паркаль танная тканіна. Кужэльнае палатно моцнае. Вінцуль купаецца у ставе. Колькі Вас тутка? Заплаціце толькі, колькі згадзіліся. Роўна куль цягнецца нашая сенажаць? Малацьбіт строс куль саломы. Гаспадар на пірагі купіў куль мукі.

2.

Вар булькае у гаршку. Мальвіна добрая жняя. Варка выткала пояс у грабелькі. Вучыцель вучыць. Вудаль вудзіць рыбу. Чакай, баране, пакуль трава будзе. На возеры каўзель. Татулька вянчаў у царкве. Маскаль нікому не спагадае. У Вячкі болька на руццэ. Матулька зварыла кісель. Мазоль — працавітых значок. Дужэль дужаецца. Адгэнуль дагэтуль тры вярсты. Пачынальніку капу яец. Бурмель усё бурчыць. Хмель уецца. Анатоль пасадзіў бульбу, а Віталь бульву. Круцель круціць. А мой-жа ты сынулька! Рабі пільне, будзе у хаце Вільня. Невель і Гомель беларускія месты.

## ЗАДАНЬНЕ 7-ае

**§ 13.** Кірылічнаму *лі* адказуе лацінічнае *li* (ліпа — lipa).

Перапішы кірыліцаю і напішы тое самае лацініцаю, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тым-жа словам, напісаным кірыліцаю.

Разьбіваньнікі разьбівалі сена. Ліс хітрае зьвяро. У каліны і маліны чырвоныя ягады. На паліцы дзьве сініцы. Вялікдзень — вялікае сьвята. На вуліцы дуды граюць. Гэта будзе на сьвятыя ніколі. Лістапад—восенскі месяц. Звалілася калодачка з печы. Нашая цяліца — пярэзімка. Амілі прыслаў сын ліст. Гэта табе не пераліўкі. На вуліцы мяцеліца мяце. Краю мой родны, колькі ты зносіш нядолі! За тры мілі бубны білі.

**§ 14.** Кірылічнаму *л* стаячаму перад *я, е, ё, ю,* адказуе лацінічнае *l*.

а) Перапішы кірыліцаю і лацініцаю.

Лявон прывёз калясьнік сена. У лагчыне на ляшчыне растуць
Lavon pryvioz kalaśnik siena. U łahčynie na laščynie rastuć

гарэхі. Тарас быў палясоўшчыкам. Любіла тож Тараса і паня.
harechi. Taras byŭ palasoŭščykam. Lubiła tož Tarasa i pania.



Зьвяры вядуцца у лесе. Люты—другі месяц у годзе. Цыбулю
Źviary viaducca u lesie. Luty — druhi miesiac u hodzie. Cybulu

здарова есьці. Ганула і Гапула — сёстры Лявонкавы. Сёлета
zdarova jeści. Hanula i Hapula — siostry Lavonkavy. Sioleta

лета цёплае. У сыботы найболей работы. Улетку люблю цябе,
leta ciopłaje. U syboty najbolej raboty. Uletku lublu ciabie,

дзетку, а зімой зьем хлеб з сьвіньнёй (з мясам).
dzietku, a zimoj źjem chleb z śvińnioj (z miasam).

б) Перапішы кірыліцаю і адначасна напішы тое самае лацініцаю, ставячы кажнае слова лацініцаю пад тым-жа словам, напісаным кірыліцаю.

1.

Конь бяжыць, зямля дрыжыць! У нажа войстрае лязо. Прыемная кісьля у гэтай саладусе. Ой, доля — то нядоля, пайшла замуж за старога, захацела пагуляці. Як жыды у школе, галасуюць. Хто мяняе, у таго хамут гуляе. Просьле работы добра і пагулянка. Дзяцей у школе пусьцілі на пагулянку. На лядах родзе проса. Лепле і Невель паветавыя месты беларускія. Местачка Лукомля у Сянскім павеце. Паляя поле грады.

2.

Мячкі мнуць лён. У роўным полю стаяў явар зялёны. Касьнікі ўплецены у касе. Магілеў стаіць ля Дняпра, а Гомель ля Сожа. Сілом сіляюць птушкі. Ё людзі дольныя, і ё бяздольныя. Той дольны, у каго доля добрая. Ён там ля лазьні блізка жыў. Летась было дажджлівае лета. Цыган, як галее, дык сьмялее. Зялеза куецца. У няўмекі — рукі калекі. На Купальле, на сьвятое ірві, маці, зельле тое, што у нас папараць завецца.

## Łaciničnaja abecada pa paradku.

| Litary łaciničnyja drukavanyja vialik. | drukavanyja małyja | pisomyja vialik. | pisomyja małyja | Litary Kiryličnyja drukavanyja vialik. | drukavanyja małyja | pisomyja vialik. | pisomyja małyja |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| A | a | A | a | А | а | А | а |
| B | b | B | b | Б | б | Б | б |
| C | c | C | c | Ц | ц | Ц | ц |
| Ć | ć | Ć | ć | Ць | ць | Ць | ць |
| Č | č | Č | č | Ч | ч | Ч | ч |
| D | d | D | d | Д | д | Д | д |
| E | e | E | e | Э | э | Э | э |
| F | f | F | f | Ф | ф | Ф | ф |
| G | g | G | g | Ґ | ґ | Ґ | ґ |
| H | h | H | h | Г | г | Г | г |
| Ch | ch | Ch | ch | Х | х | Х | х |
| I | i | I | i | І | і | І | і |
| J | j | J | j | Й | й | Й | й |
| | y | | y | | ы | | ы |
| K | k | K | k | К | к | К | к |
| L | l | L | l | Ль | ль | Ль | ль |
| Ł | ł | Ł | ł | Л | л | Л | л |
| M | m | M | m | М | м | М | м |



| Litary łaciničnyja drukavanyja vialik. | drukavanyja małyja | pisomyja vialik. | pisomyja małyja | Litary Kiryličnyja drukavanyja vialik. | drukavanyja małyja | pisomyja vialik. | pisomyja małyja |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| N | n | N | n | Н | н | Н | н |
| | ń | | ń | | нь | | нь |
| O | o | O | o | О | о | О | о |
| P | p | P | p | П | п | П | п |
| R | r | R | r | Р | р | Р | р |
| S | s | S | s | С | с | С | с |
| Ś | ś | Ś | ś | Сь | сь | Сь | сь |
| Š | š | Š | š | Ш | ш | Ш | ш |
| T | t | T | t | Т | т | Т | т |
| U | u | U | u | У | у | У | у |
| Ŭ | ŭ | Ŭ | ŭ | Ў | ў | Ў | ў |
| V | v | V | v | В | в | В | в |
| Z | z | Z | z | З | з | З | з |
| Dz | dz | Dz | dz | Дз | дз | Дз | дз |
| Ź | ź | Ź | ź | Зь | зь | Зь | зь |
| Dź | dź | Dź | dź | Дзь | дзь | Дзь | дзь |
| Ž | ž | Ž | ž | Ж | ж | Ж | ж |
| Dž | dž | Dž | dž | Дж | дж | Дж | дж |

## RAŹDZIEŁ I.
## Vialikija litary.

§ **15**. a) Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraju.

Paciapleła na dvary. Pryhreła soniejka. Staiū śnieh. Kryhi lodu źniesła vada. Dzieci irvucca vonki. U harodzie pakazałasia traūka. Ptuški zaščabiatali. Usim viasioła uviasnu.

Ci nie zaciemili vy, kali pišam vialikija litary?

b) Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraj.

Siahodnia 25-ha krasavika. Kažnaha 25-ha u našym miestačku kirmaš. Tata paviazie pradavać lon. Dzieci ždуć taty z kirmašu. Jany pabiahuć adčyniać varoty. Tata pryviazie haścinca. Dzieci lubiać smarhonskija abaranki

Pa punktu stavim vialikuju litaru. Punkt stavim tady, kali skončym jakuju dumku, abo pa skončanym skazie. Napišy 4 skazy.

§ **16**. Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraj.

U Mikicinych usie doma. Staraja Mikicicha kačaje chuście. Hapon papraūlaje chamut. Unuki taksama doma, bo doždž. Staršy Jurka z Janukom Kazanovičykam hamoniać ab vajnie. Siaredni Paūluk piša. Najmienšyja, Piatruś i Chviadośka, zaūziata rysujuć.

Ci adno paśla punktu pišam tutka vialikuju litaru? Ale, imiony i proźviščy pišam vialikaj litaraju.

§ **17**. Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraj.

Siahodnia statak chodzić razam. Voś Raba i Krasula Zavyhanskich. Tam vun Padłaska i Rahula Rybačkova. Jašče dalej Ryža i Kudra Alaškievičavy. Z statkam prybiehli sabaki — Žučok Illučonkaū i Łyska Jazepčykaū. Pastuški lubiać Łysku, bo jon pierajmaje karovy.



Jakija imiony tut napisany vialikaj litaraj?

§ **18**. Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraj.

Viačka žyvie u siale Zahorniatach. Dahetul jon byū tolki u svaim miestačku Barunach. Na Vialikdzień Viačka pajedzie u Vilniu daviedacca da dziadźki. Vilnia staić la raki Vialli. La Vilni Panarskija hory. Chacieū-by Viačka jašče pabačyć voziera Naračča. U Kryūji (Biełarusi) šmat charošych aziorаū.

Nazovy miestaū, miestačkaū, siołaū, rekaū, aziorаū, moraū i krajoū pišam vialikaj litaraj.

§ **19**. Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraj.

Spradvieku Biełarusy žyvuć u Biełarusi. Susiedźmi Biełarusoū na paūdni Ukraincy, na uschodzie i poūnačy — Maskali. Na zachodzie miažujuć Kryvičy z Estoncami, Łatyšami, Žmudzinami, Niemcami i Palakami. Našyja plamiony — Radzimičy, Sieviaranie, Viacičy — miažavali mižsobku. Ad nazovu adnaho plemieni Kryvičoū paūstaū nazoū usiaho našaha narodu. Nas, Kryvičoū, niapravilna zavuć Biełarusami.

Nazovy narodaū i plamionaū pišam z vialikaj litary.

§ **20**. Pierapišy i padčyrkni słovy, što pačynajucca vialikaj litaraj.

Kraju rodny, kraju hožy!
Miły kut maich dziadoū!
Što milej u śviecie Božym
Hetych śvietłych bierahoū,
Dzie brujacca srybram rečki,
Dzie bary - lasy huduć,
Dzie miadami pachnuć hrečki,
Nivy hutarki viaduć?

Katoryja słovy u vieršach pačynajem vialikaj litaraj?

## RAŹDZIEŁ 2-hi.

## Znaki prypynku.

**§ 21.** Pierapišy i źviarni uvahu na kosku.

U Illiniča za tokam charošy sad. U sadzie rastuć jabłyny, ihrušy, ślivy, čarešni i višni. Rastuć u sadzie i kraski. Kraski ćvituć čyrvonym, rožavym, sinim i biełym ćvietam. Dzieci lubiać być u sadzie. Jany tam hulajuć, čytajuć, źbirajuć sadovinu, irvuć kraski i niasuć ich mamie.

Sonca hreje, viecier vieje, žyta pałavieje, maładaja dziaŭčynańka rabotki nia umieje.

**Vosień**. Nia iskrycca niebazor, nia ćvicie trava čabor, nia cyhlić ptušyny stan, tolki poŭzaje tuman. Viecier bje u niamy kurhan, šapacić imhlisty bor.

Koska stavicca pamiž słovami, adkazujučymi na toje samaje pytańnie. Kali pamiž dvuch słovaŭ staić **i**, dyk koski pierad i nia staviać.

a) Pierapišy i pastaŭ kosku, dzie treba.

Dzieci pajšli u les. Tam było svabodna choraša i viasioła. Dzieci biehali kryčeli piajali łazili na drevy. Potym źbirali roznyja jahady: sunicy čarnicy maliny i pjanicy. Uviečary zaharełyja viasiołyja i vyhaładniŭšysia varačalisia damoŭ.

b) Pierapišy i pastaŭ kosku, dzie treba.

Oj, na hary piasočak, na piasočku sadočak, a u sadočku sałaviej sałaviejka łuhavy.

Była ja u mamački adna na radu dała mianie mamačka zamuž maładu nie vialeła mamačka u hościki iści. Nie pajšła hadočak ja nie pajšła druhi na trejci hadočak zatužyłasia da mamački u hościki zachaciełasia.

**§ 22.** a) Pierapišy i hladzi, dzie pastaŭlena koska.

Baćki skazali Piatrusiu, što jon zaŭtra pojdzie u školu. Piatruś uściešyŭsia, bo jon daŭno chacieŭ vučycca. Uviečary jon pałažyŭ u torbu knižki, katoryja maci jamu kupiła. U škole Piatruś nia viedaŭ, dzie sieści. Vučyciel pakazaŭ jamu miesca. Adnyja dzieci čytali, a druhija pisali. Piatruś adčyniŭ lemantar i pačaŭ čytać. Paŭluta taksama adčyniŭ lemantar, ale jon jašče čytać nia umieŭ. Užo było paŭdnia, kali dzieci źviarnulisia damoŭ.



Pierad **ale, bo, što, katory, dzie, kali** stavicca koska.

b) Pierapišy i hladzi, dzie staić koska.

Pastuški paścili statak. Paściudzianieła, dyk jany navažyli raskłaści ahoń. Pasłali Vincuka, kab naźbiraŭ droŭ. Idzie Vincuk, a idzie, ažno niedaloka biažyć voŭk. Vincuk prystoiŭ, pakul voŭk prabieh. Tady naźbiraŭ droŭcaŭ dy viarnuŭsia nazad. La ahniu raskazavaŭ, jak streŭsia z vaŭkom.

Jakaja ptuška, takija i pieśni.

Kosku staviać takža pierad **dyk, kab, jak, pakul, taki, jaki.**

Pierad **a** kosku staviać tady, kali a łučyć słovy z praciłežnym značańniem.

c) Pierapišy i pastaŭ, dzie treba, kosku.

Žyli-byli dva braciejki dy byli u ich dźvie siastrycy. Adnu addali za bahataha a druhuju za biednaha. Pa bahatuju, bahatyračku paru koniaj zaprahli a biednuju biazdolnuju pieraz ludzioŭ nakazali. Bahatuju, bahatyračku na kucie pasadzili a biednuju biazdolnuju u zapiečku.

Było horača dyk chłapcy pajšli kupacca. Pa darozie strelisia z dziadźkam Justynom katory paradziŭ kab viarnulisia damoŭ. Jon kazaŭ što budzie navalnica bo nieba zaciahvała chmarami. Chłapcy nie pasłuchali. Jany spadziavalisia pakupacca pakul pačniecca doždž. Nie dajšli jany da rečki jak pačało kapać. Chłapcy puścilisia nazad. Doždž ścich kali jany byli na dvaryšču. Zmokłyja chłapcy śmijalisia, ale maci na ich kryčeła.

Jakoje dzierava taki klin jaki baćka taki syn.

§ 23. a) Pierapišy i źviarni uvahu, dzie staić pytańnik.

— Myška, myška, dzie była? — Miski myła.

— U Boha. — Što dastała?

— Što rabiła? — Kusok sała.

b) Pierapišy i pastaŭ, dzie treba, pytańnik.

Voś i soniejka zakaciłasia, mnie da mamački zachaciełasia. Dzie mianie mama pierajmać budzie čym mianie mama častavać budzie Pierajmać budzie u višniovym sadu, častavać budzie zialonym vinom. Ci ja u hory radziłasia ci da mianie hora pryčapiłasia Ci ja u hory hadavałasia.

## RAŹDZIEŁ III-ci.

## Zvonkija i hłuchija huki *).

§ 24. Adnyja huki vymaŭlajucca **zvonka** (z hołasam), a druhija **hłucha** (biaz hołasu):

hłuchomu adkazvaje zvonki.

| | | |
|---|---|---|
| p | b | (snapy — baby) |
| t | d | (tam — dam) |
| ch | h | (uschod — hod) |
| s | z | (savu — zavu) |
| ś | ź | (treś — reź) |
| š | ž | (šal — žal) |
| c | dz | (cyna — dzynkać) |
| ć | dź | (cień — dzień) |
| č | dž | (chaču — chadžu) |

*) U škołach na Paleśsiu, u Čarnihaŭščynie i naahuł usiudy, dzie zvonkija pierad cichimi i na kancy słova nie pierachodziać u cichija, hety raździeł treba prapuścić.



§ 25. **p — b.**

a) Pierapisujučy padčyrkni **p**.

| | |
|---|---|
| Vialikaja stupa | — małaja stupka |
| staraja lipa | — maładaja lipka |
| mamina salopa | — daččyna salopka |
| vialikaja łapa | — małaja łapka |
| smačnaja repa | — sałodkaja repka |
| vialikaja kapa | — małaja kopka |

b) Padčyrkni **p** i dapoŭni.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 snapy | — 1 snop | 2 siarpy | — 1 — |
| 2 capy | — 1 — | 2 staŭpy | — 1 — |
| 2 sklapy | — 1 — | 2 strupy | — 1 — |
| 2 čarapy | — 1 — | 2 ściapy | — 1 — |

c) Pierapišy i padčyrkni **b**, zamiest katoraha čuješ **p**.

U harodzie raście bob. Chleb na stale — ruki svaje. U Vasiła vysoki łob. Paŭluk złaviŭ rybku. U studni novy zrub. Staić stary dub. U piatucha čub. Babka baić bajki. Hałub sivy, hałubka siviejša. Kiń u harščok drob soli. Na mahilniku charošy hrob. Ślosar zrabiŭ šrubku. Poŭnaja łubka zbožža. Małaja žabka skača. Zubny lekar vyrvaŭ chvory zub.

d) Hetyja słovy źmiani tak, kab jasna čuvać było **b**:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| bob | — bobu | | hrob | — | — |
| łob | — | — | žołab | — | — |
| chleb | — | — | | | |
| zrub | — | — | rybka | — | ryba |
| dub | — | — | žabka | — | — |
| čub | — | — | trubka | — | — |
| hałub | — | — | šrubka | — | — |
| drob | — | — | babka | — | — |

e) Pierapišy i dapoŭni.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| karobka | — | karobačka | klopka | — | — |
| žarebka | — | — | istopka | — | — |
| šapka | — | — | iskrypka | — | — |
| łubka | — | — | žarebčyk | — | žarabiec |
| pipka | — | — | dubčyk | — | — |
| počapka | — | — | rubčyk | — | — |
| łazobka | — | — | | | |

f) Pierapišy i vyjaśni, čamu nastupnyja słovy pišam z **b** abo **p**

| | | |
|---|---|---|
| krop, bo — | hryb, bo — | klep, bo klapać |
| kłub | hałub | lubčyk |
| zub | jastrab | sipka |
| skarb | padrub | kapka |

g) Pierapišy. Vypišy asobna słovy z **b** i asobna z **p** i vyjaśni, čamu hetak pišucca.

I.

Kapka daždžu kapnuła na šapku. U košyku byŭ hryb. Krop raście u harodzie. Karova žbiła kłub. Pastuch narezaŭ dubcoŭ na vieniki. Sipka — takaja chvaroba. Naš sabaka zaviecca Rabčyk. Dziadula pleŭ łubku. Pahaniaj dubčykam kania. Kuraślep raście na dzirvanie.

2.

Hapka razumnaja dziaŭčynka. U istopcy staić varyva. Klopka u cabry padhniła. Nia dobry u kasie klep. Hanula apranuła salopku. Karalonak znajšoŭ skarb. Lubčyk — takoje zielle. Cieśli pałažyli padrub. Padrub dy ścieny dy narub, dyk i chata usia. Ad vialikaj rany astaŭsia vialiki rubiec, ad małoj — mały rubčyk.



§ **26. t — d.**

a) Pierapišy i padčyrkni litaru **t**.

Niama čaho u rot ułažyć. U Ziankoviča čorny kot. Našaja **kotka** łavuščaja. Ty, brat moj, jež chleb svoj. Ad kuta u kut — usio tut. Hety prajdziśviet abyjšoŭ uvieś śviet.

b) Pierapišy i padčyrkni słovy, u katorych čuješ **t**, ale pišaš **d**.

Sabaka išoŭ pa kładcy. Jon źniuchaŭ śled. I dzied byŭ kaliś maład. Hoład i choład mučać ludzioŭ. Miod sałodki. Adkład nia idzie u ład.

c) Vypišy i źmiani słovy tak, kab jasna čuvać było, čamu pišacca **d**.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| lod — lodu | miod — | sad — | harod — | rod — |
| narod — | zvod — | vierad — | pierad — | susied — |
| dzied — | had — | rad — | hoład — | choład — |

d) Pierapišy i konč.

| | | |
|---|---|---|
| 2 płaty — 1 | 2 susiedy — 1 | 2 sady — 1 |
| 2 boty — 1 | 2 braty — 1 | 2 vierady — 1 |
| 2 harody — 1 | 2 katy — 1 | 2 pierady — 1 |

e) pierapišy i vyjaśni, čamu nastupnyja słovy pišucca cieraz **t** abo **d**.

| | | | |
|---|---|---|---|
| śvat, bo | sad | chatka | kładka |
| drot | krot | nasatka | kitka |
| adkład | pot | susiedka | rakitka |
| płyt | ced | kletka | Mikitka |

Pierapišy i vyjaśni.

Dobra hraje dudka Michasiova. Haspadynia adcadziła ced. U kavala ciažki mołat. Daj katku małačka! Kab na ich zvod, na hetyja kamary! Churman siadzieū u pieradku. Ulez, jak u nierat: ni uzad, ni upierad. Słova nie źmiaściłasia u radku. Dzieci hulajuć u sadku. Prut byvaje dzieraviany i zialezny. Voźnik kupiū kitku siena. Małaćbit zmałaciū pasad aūsu. Jahniatka śsie matku.

2.

Koń zraniū kapyt. Lod patreskaūsia na racce. Sabaka schavaūsia u budku. Vypuści ptušku z kletki. Ahatka zarubiła nasatku. Krot psuje požniu. Hety chleū zapirajecca zakrutkaju. La hanku byli uschodki. Dzieci skakali cieraz kałodku. Aziarod staić na humniščy. U im sušacca snapy. Aziarod ci piarepłat — usio roūna. Na Kaladki — bliny dy aładki. Vučań kupiū asadku da piara.

§ 27. **ch — h.**

a) Pierapišy i padčyrkni **ch**.

U piaryny kładuć pierje i puch. Byvajuć i koūdry z puchu. Pastuch paścić statak. U pastucha była puha. Źmiaci miakinu u katuch. Vaźmi z katucha łubku. Sioleta haroch stručny. U sabaki dobry niuch. Jon niucham pačuū miasa. Na strasie moch vyras, na mochu biarozka.

b) Pierapišy i padčyrkni składy, u katorych čuješ **ch**, ale pišaš **h.**

Araty vyjšaū arać łoh. U jaho prytupiūsia naroh. Jon vyprah kania i puściū na łuh. Koń pajšoū u stoh. Jaho Boh ściaroh ad biady. Načležniki pajechali na načleh. Dobra zrabiū Boh, što nia daū śvińni roh.

c) Pierapišy i źmiani słovy, kab jasna było čuvać, čamu pišacca **h.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| łoh | — łohu | Boh | — | torh | — |
| łuh | — | paroh | — | bierah | — |
| roh | — | naroh | — | bieh | — |
| stoh | — | vorah | — | płuh | — |



d) Pierapišy i skonč.

| | | |
|---|---|---|
| 2 rahi — 1 roh | 2 stahi — 1 | 2 płuhi — 1 |
| 2 bierłahi — 1 | 2 tarhi — 1 | 2 katuchi — 1 |
| 2 bierahi — 1 | 2 pastuchi — 1 | 2 načlehi — 1 |

e) Pierapišy i vyjaśni, čamu nastupnyja słovy pišucca pieraz **ch** abo **h.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| śmiech, bo | hrech | puch | lohka, bo lohieńka |
| śnieh | uzrech | ruch | drahka |
| miech | haroch | niuch | krochki |
| moh, bo mahu | | | |
| ściaroh | | | |
| loh | | | |
| zaproh | | | |

f) Pierapišy, padčyrkni słovy, što majuć **h** abo **ch,** i vyjaśni, čamu pišam hetyja litary.

1.

Cialaci adharodžany katuch. Mnie lohka na sercu. Jon jedzie ulehcy. Jakaja drahkaja daroha! Ty moh dzierci moch. Na požni stajaū stoh siena. Araty zrabiū uzrech. Smačny žabie harech, ale zuboū Boh nia daū. Poūny miech muki.

2.

Jaūtuch naziraū kania. Koń pabieh u škodu. Bieh u kania bystry. Dzieci zrabili vybieh u les. U chvoraha ciažki dych. Uloh ty nadta u rabotu. Siena jašče było vohkaje. Čerstvy piroh krochki. U siakiry abuch. Paśpiech—ludziom na śmiech. Byū čutny sabačy brech.

